НІВА

Год выдання V
№ 33 (233)
14 ЖНІЎНЯ 1960
БЕЛАСТОК
Цана 60 гр.

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

## НАШЫ ДЗЕЦІ



— Мама, пасоб, цяскі куль!
фота — А. КАЗБЕРУК.

# ПРА НАСТАЎНІКАЎ з далёкіх вёсак

Канікулы. Час адпачынку не толькі вучням, якія іх так прагна чакаюць, але і настаўнікам, стомленым складанай і нялёгкай працай на працягу 10-ці месяцаў. Цяпер маюць адпачынак адны і другія. І не падумайце, што мне захацелася акурат кагосьці моцна патрывожыць, перабіць заслужаны наогул адпачынак. Не. Справа ў чым іншым, зрэшты...

Хаця нярэдка пісалася ў «Ніве» пра настаўнікаў, пра іх працу з вясковай моладдзю, але вось аднойчы я задаў сабе пытанні: што робяць маладыя настаўнікі, калі яны маюць абмежаваныя магчымасці сувязі з горадам, ці замыкаюцца толькі ў свае асабістыя справы, ці адмоўна адбіваецца гэта ў іх прафесіянальнай працы? Каб хаця часткова адказаць на гэтыя пытанні, не вырашыў я прымяніць пры гэтым штамп якойсьці анкеты ці форму арганізаванага інтэрв'ю, але проста лічыў на журналісцкую прыпадковасць пабыўкі ў некалькіх школах і правядзенне нармальных сяброўскіх гутарак з маладымі настаўнікамі. Найлепш ўдаецца, зразумела, са знаёмымі, бо яны найбольш шчырыя. Але не заўсёды ёсць знаёмыя там, дзе трэба, і не заўсёды маладыя. «Тады няхай будзе гэтая журналісцкая прыпадковасць», — падумалася мне.

У вёску Трывежа (Гайнаўскі павет) дабрацца не зусім лёгка, як на сучасныя ўмовы, у якіх патрабуем выгод і раскошы, калі забудзем пра мінулае. Калі суха, дык можна туды дабрацца з Гайнаўкі веласіпедам ці пехатою і гэтыя 9 км «не ўядуцца ў косці». Але ў час вясенняга і асенняга разводдзя можна ўдосталь нацешыцца «экскурсіяй» на гэтай адлегласці. Мне давялося там пабываць у апошнія дні школьнага года. Прыгожая вёска, стройныя хаты, чыста на панадворках, электрычнае святло адразу сказалі мне многае пра яе культуру. Аднак гэта не «забітая дошкамі» вёска, як мне здавалася з нейкай адлегласці. Школа памяшчаецца ў звычайнай сялянскай хаце (як я даведаўся потым у павятовых улад, у 1962 годзе пабудуецца там новая цагляная школа). У час перапынкаў быў я здзіўлены, калі заўважыў выходзячых на ганак акурат маладых настаўнікаў і што найлепшае — знаёмых Олю Мядзведзь і Андрэя Ялозу. З Оляю давялося разам вучыцца ў сярэдняй школе, а Андрэй — амаль аднавясковец.

— Ох, як ты да нас дабраўся. Нас з рэдакцыі яшчэ ніхто не наведаў. Прыемна! — усклікнула Оля.

— Прыляцеў на крыллях, здагадаўся, што ты тут, — пажартаваў я.

Аказалася, што Оля працуе ў Трывежы ўжо 3 гады. Перад тым яшчэ 2 гады працавала ў Тэрахоўскай Вульцы. 5 год педагагічнай працы. Гэта шмат часу, і, як здаецца некаторым, хто баіцца працы ў школе, за 5 год можна «патраціць нервы», да таго яшчэ ў вёсках, дзе мала моладзі, дзе не паглядзіш кінафільма, адкуль далёка да тэатру. Зрэшты, і мне так здавалася калісьці, калі я пасля сярэдняй школы задумаў быць настаўнікам. І аказваецца, Оля таксама думала перад пачаткам сваёй працы. Пры тым яшчэ яна ж нарадзілася і выхавалася ў мястэчку. Але змяніла свой погляд нават пасля першага года працы. А цяпер далёка сваёй думкай ад тае, якая непакоіла Олю калісьці. Чаму? Перадусім, любоў да сваёй працы, да дзяцей перакрэсліла яе ранняя «хістанні».

Найбольш каханым прадметам, які Оля выкладае ад пачатку працы ў школе, з'яўляецца родная беларуская мова. Ёй прысвячае настаўніца многа ўвагі. Хаця ў Трывежы толькі 5-цікласная школа, але Оля не задавальняецца ведамі, якія вынесла са школы, папаўняе іх. У яе пакойчыку шмат розных кніжак, а у тым ліку і беларускіх. Многа чытае.

— Кніжкі мне даюць столькі, што я не магу сумаваць. Працей кажучы, даюць веды, а веды жыць дапамагаюць, — сказала настаўніца.

— Такая ўжо ў асноўным псіхіка чалавека, што хацеў бы жыць у палацы, нічога не рабіць і мець усяго ўдосталь, — гавораць людзі. Але я не прадстаўляю сабе іншага жыцця, як маю цяпер, — дабавіла.

Настаўніца купіла сабе радыёпрыёмнік. Купіла таксама маторны веласіпед «Сімсон». Калі сухая дарога, ездзіць да сваіх сяброўак, да сястры, таксама настаўніцы, у Дубіны і часта ездзіць паглядзець кінафільм у Гайнаўцы.

А Андрэй? Андрэй працаваў яшчэ толькі першы год. Скончыў Настаўніцкую студыю ў Кракаве, аддзяленне рускай мовы і літаратуры. Ён ураджэнец вёскі Барысаўка. Вырашыў вярнуцца ў сваю аколіцу і працаваць недалёка ад сваёй вёскі і бацькоў. Часта наведвае родную вёску. Там жа Белавежская пушча; у блізляжачым бары збегаў у дзяцінстве ўсе сцежкі і дарожкі па ягады і грыбы. У лесе пасвіў кароў і каня. І нялёгка было б цяпер Андрэю быць далёка ад усяго гэтага, так сэрцу блізкага і дарагога.

Інспектарат асветы даверыў Андрэю кіраўніцтва 5-цікласнай школай у Трывежы. Зразумела, не зусім лёгка кіраваць школай без папярэдняй педагагічнай працы. Але Андрэй — хлопец здольны і добра спраўляецца ў працы.

Што ж рабілі гэтыя настаўнікі са сваімі вучнямі акрамя вядзення нармальных урокавых заняткаў?

На маю думку, у сваёй выхаваўчай працы за мала ўвагі яны звярталі на арганізацыю артыстычнага жыцця сярод вучняў. Але затое вельмі добра паставілі працу ў напрамку прывіцця ашчаднасці ў вучняў, арганізуючы школьную ашчадную касу, да якой належала 57 вучняў на агульны лік 59 вучняў у школе. А што найважнейшае — вясною настаўнікі залажылі ў школьным агародзе вопытныя палеткі з рознароднымі раслінамі, пачынаючы ад бульбы і на кветак. Кожны вучань і вучаніца IV-га і V-га класаў мае свой палетак, які даглядае. Гавару: даглядае, бо настаўнікі заахвоцілі вучняў, каб тыя свае палеткі даглядалі і ў час канікул. Патрактавалі гэтае як разрыўку для дзяцей, а з другога боку як прывіццё навыкаў да паслядоўнасці ў працы са сваімі выхаванкамі. Дарэчы, не магу ўстрымацца ад цікавасці, як зараз выглядаюць гэтыя палеткі.

Ужо ўсё? Не. Цікавіла мяне, чаму ў Трывежы няма мастацкага гуртка. Прабачце мне за шчырасць і за парушэнне сваёй засцярогі, мілыя Оля і Андрэй, калі будзеце чытаць гэтае. Вы гаварылі, што нельга

(Працяг на стар. 4)



Настаўнікі Гайнаўшчыны на экскурсіі пад Кэнтшынам.
Фота — П. ЧЭРНЯКЕВІЧ

## НАШЫ ІНТЭРВ'Ю

### Цуда агародніка — самавука

У Сямяціцкім павеце, не далёка ад дзяржаўнай граніцы з Савецкім Саюзам, знаходзіцца маленькая вёска — Пяшчатка...

Шмат ёсць розных вёсак і па-рознаму яны называюцца — часам нават надта дзіўна, але Пяшчатка поўнасцю апраўдвае сваю назву. Маленькія, уросшыя ў зямлю хаткі, найчасцей пад саламянай страхой, раскінуліся тут сярод пясчаных узгоркаў, на якіх нават ялавец ды худая ігліца расці не хоча. Спрадвеку ніхто тут не зазнаў шчасця.

Сярод гэтай «пясчанай пустыні» знаходзіцца, быццам аазіс, гаспадарка Ільі Казачука. Не, натура не выдзеліла яму сярод акружаючых пяскоў спецыяльна якойсьці жыццёдайнай зямлі. Яна ў яго не лепшая, чым у суседзяў. Толькі Казачук сваёй працай, беспрыкладнымі намаганнямі змог вычараваць цуды на пясках. Яго агарод слаўны на ўсё наваколле.

**— Даўно Вы займаецеся агародніцтвам?** — пытаю Ілью Казачука.

— У шырэйшым маштабе — ад 1946 года.

**— Ці Вы дзе-небудзь вучыліся агародніцтву?**

(Працяг на стар. 7)

Карэспандэнцыя з БССР

# 1200 свіней у год

**(Расказвае Герой Сацыялістычнай Працы свінарка саўгаса імя Дзяржынскага Капыльскага раёна Анна Нікульская.)**

Свінаркай у саўгасе я працую ўжо сем год. Шмат сіл аддала я гэтай справе, але такіх вынікаў, як сёлета, ніколі яшчэ не мела. І гэта невыпадкова. Мой поспех — гэта вынік увядзення на ферме прагрэсіўных метадаў адкорма свіней. Раней яны ўтрымоўваліся ў нас у станках невялікімі групамі, кармілі іх гатаванымі кармамі. А гэта значыць, што прыходзілася працаваць ад рана да позняга вечара. Пад маім наглядам было тады толькі 150 свіней, а за год адкармлівала не больш трохсот.

Зусім па-іншаму пайшлі справы, калі ў 1957 годзе дырэкцыя саўгаса вырашыла перавесці частку свіней на вольнавыгульнае ўтрыманне і кармленне сухімі (негатаванымі) кармамі. У гэтай частцы свінарніка, дзе я працавала, былі зняты перагародкі, пастаўлены кармушкі для канцэнтраваных кармоў і бульбы. Падвялі вадаправод і змайстравалі аўтапаілкі. Каля свінарніка абгарадзілі вялікі выгульны двор, дзе паставілі кармушкі для зялёных кармоў.



**У свінагадоўчай ферме на Беларусі.**

Пасля гэтага ў тым жа будынку мы маглі ўжо размясціць зімой 400, а летам 600 — 700 свіней, якіх даглядала я адна. Раней такую работу выконвалі чатыры свінаркі. Гэтае новаўвядзенне ўжо прынесла гаспадарцы значную эканомію.

Праца свінаркі ў нас спецыялізавана. Адны даглядаюць свінаматак і вырошчваюць парасят, другія гадуюць маладняк, а трэція адкармліваюць яго. Да мяне, напрыклад, паступаюць парасяты ў чатырох-пяцімесячным узросце вагою ў 40—50 кг. Я іх адкормліваю вагою да 100 — 110 кг. І так цэлы год адкорм ідзе канвеерам: адны групы жывёлы здаюцца дзяржаве, а на іх месца паступае маладняк.

Я стараюся атрымаць як мага большую вагу пры найменшых затратах кармоў. У сярэднім на кормніка расходваю ў дзень 1,5 кг канцэнтратаў, 4 кг бульбы і каля 1 кг сеннай мукі. Значнае месца ў рацыёнах займае кукурузны сілас. Летам кормнікі атрымліваюць зялёнай масы ўволю. У нас у гаспадарцы зроблены спецыяльны зялёны канвеер. У яго ўваходзяць жыта, канюшына, віка — аўсяная сумесь, кукуруза, кармавы лубін. Зялёная маса падаецца ў цэлым выглядзе, каб пазбегчы страты вітамінаў. Даю кормнікам і мінеральную падкормку — крэйду, соль, а зімой хвойныя лапкі.

Як бачыце, свіней у мяне зараз на многа больш, але працаваць стала значна лягчэй. Кармы раздаю пры дапамозе падвеснай дарогі і засыпаю іх у кармушкі на цэлы дзень. Зімой два разы ў дзень выпускаю свіней на прагулку, летам яны ўвесь час знаходзяцца на двары і заходзяць у свінарнік толькі паесці ці напіцца. Пры такім утрыманні сярэдні прырост у суткі складае 600 грам на галаву.

Зараз я забавязалася адкарміць у другім годзе сямігодкі не менш чым 1200 свіней агульнай вагою 1300 цэнтнераў, што складзе па 65 цэнтнераў на 100 га ворыва.

...Едуць людзі вучыцца, пераймаць новае, перадавое ў саўгас імя Дзяржынскага. І свае, капыльскія, і слуцкія, старобінскія, барысаўскія — шматлікія групы з розных раёнаў пабывалі тут.

1200 свіней у год!

— Раней і ў пяць год не справілася б, — усміхаецца Анна Нікульская, — а цяпер і аднаго хапае. Але гэты тэрмін пастараюся скараціць. Я сваё абавязацельства выканаю ў адзінаццаць месяцаў, — заяўляе яна цяпер. І гэта гаворыцца з такой упэўненасцю, што не застаецца ніякага сумнення: так яно і будзе.

**Л. ХАЦЬКО**

ФАЛЬКЛОР БЕЛАСТОЧЧЫНЫ

# Ой не стой на масту

— Ой не стой на масту,
Бо праваліцся.
Чы ты верна мяне любіш
Чы ты хваліцся?

Як ты мяне не любіш,
Не кажы нікому,
Бо то людзі разнясуць.
Як вецер салому.

— Як я цябе не люблю
Скарай мяне Божа:
Цэловав, міловав
Пакуль сам не зможа.

Цэловав, міловав,
Не нацэлаваўся;
Як у саду салавей
Не нашчабятаўся.

Як у саду салавей,
Зязюля кавала.
А бадай ты б не прыждаў
Каб я цябе цалавала.

— А бадай ты, дзяўчынонька
Хварэла, балела,
Як ты мае гасцінчыкі
Штовечара ела.

— Як ты, дурню, купаваў,
Я разумна брала,
А цяпер пасылай
Хоць да генерала.

Пажджы, дурню, аж да восен
Нарастуць кісліцы,
Куплю мерку за капейку,
Аддам усе тасцінцы.

— У цябе стан, як у бабы,
Рукі, ногі, як у жабы.
— У цябе вусы, як у рака,
А сам руды, як сабака.

**Ад Марыі Трахімчук (69 год) з вёскі Белявічы. Беластоцкага павета запісаў ў студзені 1960 г** **АЛЕСЬ САВІЦКІ**

рукі «калоду». Крыкі гэтага няшчаснага я і чуў. Адзін з служачых папхнуў яго ў спіну, і ахвяру ўцягнулі ў памяшканне. Яназіраў гэту карціну не варушачыся. Даўно мне хацелася ўласнымі вачыма ўбачыць і пераканацца, што на жывых людзях сапраўды робяць доследы. Але цяпер я не рады быў, што спусціўся ў гэты падвал, так як з першых жа крокаў пачаў адчуваць жах.

— Прыбыў ў вашае распараджэнне! — адрапартаваў я старшаму лабаранту, які выйшаў з пакоя № 26.

— Добра. Увайдзі і надзень спецадзежу, — сказаў ён і з клапатлівым выглядам увайшоў ў суседні пакой. Па абодвух баках калідора, куды я прыйшоў, размясціліся лабараторыі. З-за гарачыні амаль ва ўсіх пакоях былі адчынены вокны, якія выходзілі ў калідор. Адчувалася, што атмасфера тут куды больш напружаная, чым у лабараторыях секцыі Такагі, дзе працавалі мы.

Адкрыўшы першыя дзверы, я апынуўся ў памяшканні, дзе быў дызінфіцыруючы душ. Тут я прайшоў апрацоўку растворам карболавай кіслаты, затым надзеў гумовую спецадзежу, падобную на лёгкі вадалазны касцюм, і ўжо ў ёй зноў прайшоў апрацоўку дызінфіцыруючай вадкасцю. Гэта адзежа амаль не адрознівалася ад той, якой мне даводзілася карыстацца пры правядзенні доследаў на жывёле. Яна шчыльна аблягала ўсё цела. За спіною знаходзіўся маленькі кіслародны апарат.

Адчыніўшы другія дзверы, я зноў далажыў, што гатовы прыступіць да працы.

Пасярэдзіне пакоя да чорнага, нібы вымазанага дзёгцем ложка прывязалі чалавека («калоду»), які адчаянна біўся ў руках асістэнтаў. Людзі ў такой

43

жа, як і ў мяне, спецадзежы трымалі ахвяру абыякава, як аўтаматы. «Калода» баранілася са страшнай сілай, хоць рукі і ногі яе ўжо былі звязаны. Гэта быў здаровы чалавек нармальнай ўкормленасці. Чалавек, выкарыстоўваемы для доследу, як і паддоследная жывёла, павінен быць здаровы, таму, што калі ён хворы і аслаблены, вынікі доследу не будуць адбіваць карціну цячэння хваробы ў звычайных умовах. Таму ў турме нашага атрада асаблівая ўвага звярталася на кармленне і гігіену.

Я падносіў, як мне было загадана, медыкаменты і інструменты і назіраў, як ваенны лекар робіць ін'екцыю. Я не ведаў, з якой мэтай праводзіцца дослед, што ўводзяць чалавеку ў кроў, але, мяркуючы па тым, што хранаметражыст уважліва назіраў за цячэннем хваробы пасля ін'екцыі, я зразумеў, што спраўджаецца хуткасць дзеяння нейкіх бактэрый. Няшчасны корчыўся ў страшэнных муках, і нялюдска крычаў. Але нарэшце заціх, відавочна, сілы яго кончыліся. Дослед працягваўся дзве - тры гадзіны, якія выдаліся мне вечнасцю.

Вечарам мне загадалі вывезці яго труп. Ён выглядаў страшна. Усе грудзі і твар паддоследнага мелі цёмна-ліловы адценак з-за падскурных крывацёкаў. Я ўжо бачыў на здымках «калоды», якія загінулі такою страшнаю смерцю, і таму мей нейкае ўяўленне аб тым, як яны павінны выглядаць ў рэчаіснасці. І тым не менш цяпер, калі мне паказалі знявечаны хваробай да непазнавальнасці труп, я, глянуўшы на яго, ледзь не страціў прытомнасці. Я мімаволі адвярнуў вочы, але перада мною ўсё стаяў страшны вобраз мерцвяка са скрыўленымі ў муках губамі і страшным бляскам

44

налітых крывёй бялкоў паўадкрытых вачэй, якія, здавалася, з нянавісцю глядзяць на мяне.

Труп акунулі ў моцны раствор карболкі, і я, узваліўшы мерцвяка на возік, павёз яго. Бясконца доўгім выдаўся мне шлях па злавеснаму падземнаму калідору ад лабараторыі да крэматорыя. Усхваляваны да глыбіні душы, я крочыў, бы сляпы, механічна пхаючы возік, і натыкаўся на розныя рэчы. Кожны раз, калі возік на што-небудзь наязджаў і труп падскокваў на ім, мне здавалася, што гэта страшная «калода» вось-вось скочыць і кінецца на мяне, і тады страх ахопліваў усю маю істоту з такой сілай, што мяне праймалі дрыжыкі, хоць у калідоры была высокая тэмпература. Да гэтага возік каціўся з такім нудным скрыпам і лязгатам, што часам здавалася, быццам навокал мяне кідаюцца і стогнуць ўсе душы замучаных тут раней, аплакваючы чарговую ахвяру.

Высокі комін, прызначэння якога я дагэтуль не ведаў, аказаўся комінам крэматорыя. Туды быў праведзены электрычны званок, які паведамляў аб заканчэнні доследу, таму калі я дабраўся да адчыненых дзвярэй, мяне ўжо чакалі трое служачых.

Перадаўшы возік з трупам, я чым хутчэй пакінуў гэтае страшнае месца.

Дагэтуль я неяк не звяртаў ўвагі на дым з коміна, але цяпер пры адной думцы аб тым, што ўнізе, пад гэтым комінам, паляць трупаў, мяне праймалі дрыжыкі і спазмы сціскалі мне горла.

Праўда, навокал крэматорыя ніякага запаху ад паленых трупаў не адчувалася, відавочна, менавіта з гэтай мэтай комін і быў зроблены такі высокі.

**(Працяг будзе)**

45

# НА СМЕРЦЬ

Думкі плылі хутка. У адну хвіліну стала ўсё ясна. «Ах, людзі, людзі! — падумала Наташа. — Чаму вы ўсё яшчэ верыце ў гэты дурманскі забабон, што зямля ратуе ўражанага маланкай? Гэта ж толькі дапамагае застацца чалавеку ў зямлі навекі!»

Незадоўга Станкевіч ляжаў, ачышчаны ад зямлі, а Наташа прыступіла да стасавання штучнага дыхання. Ёй дапамагала сяброўка, настаўніца Галіна. Амаль паўгадзіны сяброўкі намагаліся ўскаліць застыўшыя лёгкія няшчаснага чалавека да працы. Аднак дапамога прыйшла запозна. Пакуль яны прыбеглі, Станкевіч праляжаў ужо амаль гадзіну часу.

* * *

Хуткая дапамога прыехала пасля чатырох гадзін. Бура пазрывала правады, і не было ніякіх магчымасцей, каб навязаць сувязь з Саколкай. Лекар быў ужо непатрэбны. Пацвердзіў толькі смерць Станкевіча ад паражэння маланкай.

На другі дзень быў праведзен дослед і справа выяснілася. Маланка ударыла ў слуп, на якім былі падвешаны драты радыёвузла. Слуп не быў добра забяспечаны ад грому, (меў папсаванае зазямленне), і таму электрычная іскра вялікай сілы, якой менавіта з'яўляецца маланка, праскочыўшы па дратах, папала да гнязда радыёкропкі ў хаце Станкевіча. Няшчасце хацела, каб у той жа момант пад гняздом радыёкропкі сядзеў дзядзька Станкевіч са сталёвым нажом у руках. Сталь, як і ўсе металы, з'яўляецца добрым праваднікоам электрычнасці і таму «прыцягвае» маланку. Каб Станкевіч не трымаў нажа ў руках, апрача лёгкіх паражэнняў, нічога грознага з ім не здарылася б.

З гэтага бачым, што не радыёкропка, і не «божая сіла» з'явілася прычынай смерці Станкевіча, як шматлікія вясковыя «тэарэтыкі» намагаюцца выясніць, а дрэнны стан забеспячэння ад грому радыёвузлавай лініі. Жыхары Новага Вострава (Сакольскі павет) і навакольных вёсак, якія карыстаюцца радыёкропкамі, не маюць ніякіх прычын, каб выкідваць свае громкагаварыцелі, а ў хатах зрываць радыёабсталяванне.

Аднак для тых, хто вядзе догляд за радыёвузлавой лініяй, няшчаснае здарэнне ў Новым Востраве павінна прагрымець як алярм трывогі. Па іх віне загінуў чалавек.

**ВІКТАР РУДЧЫК**

# Замарожаныя грошы

Ад часу стварэння дзяржавай Фонда развіцця сельскай гаспадаркі на Беласточчыне арганізавана шмат сельскагаспадарчых гурткоў. Члены іх, поўнасцю выкарыстоўваючы фонд, купляюць штораз новыя сельгасмашыны, палягчаюць цяжкую прафесію земляроба, атрымліваюць лепшыя ўраджаі. Але на Беласточчыне яшчэ нямала грамад, дзе грошы, прыпадаючыя з фонда развіцця сельскай гаспадаркі, зусім не выкарыстоўваюцца. У такім выпадку капітал, прызначаны на развіццё сельскай гаспадаркі, з кожным годам узрастае, але ён замарожаны.

Напрыклад, на тэрыторыі ГРН Гурка ў Сакольскім павеце існуе ўсяго толькі адзін сельгасгуртток на хутары Нетупа. А грамадская рада тут не малая. Да яе належыць 13 вёсак. Да таго яшчэ тэрыторыя гэтай грамады, мабыць, найбольш адсталая ў павеце. Людзі жывуць тут бедна. Апрацоўка зямлі такая ж, як 100 год таму назад. Не сустрэнеш тут амаль ніводнай сельгасмашыны. Ураджаі таксама наогул слабенькія.

На канцы вёсак ГРН Гурка з фонда развіцця сельскай гаспадаркі назбіралася ўжо немалая сума, амаль 400 тысяч злотых. Нават існуючы сельгасгурток у Нетупе не выкарыстаў ніводнай залатоўкі, прыпадаючай з фонда развіцця.

Зразумела, што з фонда развіцця сельскаи гаспадаркі могуць карыстацца толькі сельскагаспадарчыя гурткі. Але ж на тэрыторыі ГРН Гурка вельмі спрыяльныя ўмовы для арганізацыі сельгасгурткоў. Напрыклад, у самой Гурцы. Тут па былым маёнтку засталіся прыгожыя ставы. У іх шмат карпаў, ліней, карасёў і іншай рыбы. Ставамі гэтымі гаспадараць паасобныя сяляне. Вядома, яны цяпер занядбаныя, зараслі травой. Часовыя гаспадары не дбаюць, каб іх адпаведна загаспадараваць. Ім толькі, каб злавіць чым пабольш рыбы. Зусім інакш было б, калі б за ставы ўзяўся сельгасгурток. Ачысціўшы іх (на гэта не трэба вялікіх сродкаў), якую ж тут можна было б завесці гадоўлю рыбы! Гэта ж сапраўды неабмежаваная крыніца чыстага даходу. Такая рыба, як карп, лінь ці карась карыстаецца на нашых рынках вялікім попытам. Другая справа. У Гурцы вялікія залежы добрай гліны. Бліжэйшая цагельня ў Шудзялаве за 15 кіламетраў. На цэглу ў гэтай аколіцы вялікі попыт. Таму ў апошні час трое сялян (нават з іншай аколіцы) арганізавалі ў Гурцы прыватную цагельню. Яны плацяць падаткі і гэтае прадпрыемства для іх вельмі даходнае. Несумненна, што сельгасгурток меў бы яшчэ большыя магчымасці разгарнуць прадукцыю цэглы ці другіх будаўнічых матэрыялаў. Правілы фонда развіцця сельскай гаспадаркі прадбачваюць 12 прац. прыпадаючай сумы грошай данаму гуртку прызначыць на інвестыцыі. У выпадку ГРН Гурка, 12 прац. ад сумы — амаль 400 тысяч — гэта не малыя грошы. За іх можна было б добраўпарадкаваць ставы і прыступіць да прадукцыі цэглы (зразумела, пры адпаведных складчынах самых членаў гуртка). Ці гэта было б карысна? Несумненна, так.

Гэтыя справы аднойчы абмяркоўваліся на пасяджэнні грамадскага камітэта ПЗПР. Члены партыі бачаць вялікія магчымасці гаспадарчага развіцця сваёй аколіцы. Але ўсё неяк не могуць зрабіць канкрэтных крокаў у гэтым напрамку. І грошы на развіццё сельскай гаспадаркі застаюцца тут надалей невыкарыстанымі.

**В. БАРШЧЭЎСКІ**

## НАШЫ ДЗЕЦІ



— Вось якія мае гускі!
фота — А. БАРШЧЭЎСКІ

# ШПІЯНАЖУ

запэўніў прэзідэнта Эйзенхаўэра — і гэтае запэўненне было перададзена Белым домам для апублікавання ў друку, — што Мендэрэс застаецца гаспадаром становішча і што армія яго падтрымоўвае.

Уся гісторыя амерыканскай контрразведкі прадстаўляе сабою шэраг упадкаў і ўзлётаў.

У час сусветнай вайны генерал Уільям Дановен патрапіў пераканаць прэзідэнта Рузвельта ў неабходнасці ўвядзення таталітарных метадаў ў мэтах эфектыўнай барацьбы з Гітлерам і ў неабходнасці выкарыстання ў барацьбе з ім той жа зброі, што і ў яго. Дановен і з'яўляўся арганізатарам славутага АСС (аддзелу стратэгічнай службы), агенты якога мелі сваім заданнем дзейнасць на тыле праціўніка. АСС правяло вялікую колькасць паспяховых аперацый, якія былі звязаны з рухам Супраціўлення на акупаваных тэрыторыях. Гэта арганізацыя была асабліва актыўна ў Італіі, Францыі і Югаславіі.

У 1947 годзе прэзідэнт Труман падпісаў закон № 110 аб пакліканні ЦРУ. Начальнікам новай установы быў назначаны генерал Вальтэр Бедэль Сміт, які прыдаў яму паўваенны характар. Калі Эйзенхаўэр стаў прэзідэнтам, ён назначыў Джона Фостэра Далеса дзяржаўным сакратаром, а яго брата Алена Далеса зрабіў кіраўніком ЦРУ замест Сміта.

ЦРУ набірае сваіх агентаў непасрэдна з універсітэтаў і ваенных вучылішч і не грэбуе былымі агентамі АСС. Плата — выдатная і даходзіць да 6000 — 13000 долараў у год, не лічачы грошай на дарожныя выдаткі і іншыя затраты. Работа вядзецца ў нядрэнных умовах і дае права на пенсію (эмерытуру). У ЦРУ працуе шмат жанчын, яны складаюць адну пятую ўсяго персаналу. Амаль усе яны — сакратары і машыністкі.

Абставіны ў ЦРУ зусім адрозніваюцца ад абставін у іншых дзяржаўных установах. Усе гавораць ціхім голасам, вельмі рэдка карыстаюцца тэлефонам. Раз на тыдзень будынак ператрасаецца зверху ўніз. Кіраўніцтва хоча мець упэўненасць, што нідзе не схаваны мікрафоны і магнітафоны, якія маглі б запісаць сакрэтныя размовы. Усе плёнкі пішучых машынак вечарам замыкаюцца ў спецыяльныя сейфы, і капіральная папера знішчаецца ў прысутнасці начальнікаў аддзелаў. Нават кошыкі для непатрэбнай паперы дакладна ператрасаюцца.

Тэлевізійныя камеры, накіраваныя ва ўсе куткі ўсіх памяшканняў, даюць магчымасць аднаму служачаму назіраць за ўсімі. Усе тэлефонныя размовы запісваюцца на магнітафонную плёнку.

Служачыя ведаюць, што яны не маюць права на асабістае жыццё. Яны павінны рэгулярна праходзіць допыт праз «машыну праўды», каб начальства ведала іх самыя сакрэтныя думкі. Псіхіятры перыядычна аглядаюць увесь персанал. Два лекары і тры медсястры стала знаходзяцца ў будынку ЦРУ. Гэта ўстанова лічыць за лепшае лячыць сваіх служачых на месцы.

Апрача асноўнага будынку, ЦРУ мае трыццаць іншых будынкаў і дваццаць пяць аддзелаў ва ўсіх краінах свету. Яно кантралюе таксама іншыя дзевяць амерыканскіх органаў шпіянажу.

Седзячы ў сябе ў кабінеце, Далес стала вывучае даклады, якія плывуць да яго з усіх бакоў.

Далес не толькі ўзяў на сябе адказнасць за палёты «У—2», але і даў зразумець, што ён сам быў аўтарам праекта фатаграфавання з самалёта. «У—2» стаў важнай зброяй амерыканскай стратэгіі. Дыпламатычныя падзеі і новыя рускія ракеты нанеслі рашучы ўдар па гэтай праграме.

ЦРУ менш ганарыцца сваімі іншымі перамогамі. Кажуць, што адзін з яго агентаў генерал Норман Шварцкопф выклікаў звяржэнне ўраду Масадыка ў Іране і ўстанавіў на іранскім троне шаха. Агенты ЦРУ звярглі ўрад Арбенса ў Гватэмале. Касцільо Армас, які змяніў яго і быў забіты, быў агентам ЦРУ.

«Служба маўчання» стварыла тайныя арганізацыі ў Савецкай Расіі і краінах — сатэлітах і нават у некаторых краінах, якія яшчэ не вырашылі, на якім баку жалезнай заслоны ім распалажыцца.

# ЗАМЯНЯЛЬНАЯ СЫРАВІНА

Мой дзядуля трапіў у палон проста. Вяртаючы-ся цягніком з ваеннай службы, выйшаў у калідор закурыць і тут сутыкнуўся з бабуляй. Была бабуля ў той час блакітнавокая, з касою па пояс, мела талію ў чарачку і бюст «бардоткі». Убачыўшы ваеннага, разгубілася і ўпусціла мыльніцу.

Дзядуля хоць радавы, але ў афіцэраў навучыўся абыходзіцца з дамамі. Таму хуценька падняў мыльніцу і, падаючы бабулі, завязаў гутарку, якая давяла яго да шлюбнага дыванка і зрабіла маім дзядуляй.

Дзед з бабуляй даўно памерлі, а мыльніца засталася і я ёю карыстаюся.

Вось цяпер гляджу на нікеліраваны карабок і думаю: якая сучасная мыльніца пражыве толькі часу. Цяпер мыльніцы робяць з пластмасы, ломіцца яна быстра і ў спадчыну не пераходзіць.

Наша прамысловасць шырока ўжывае замяняльную сыравіну. Бывае, у магазіне глядзіш абутак і здзіўляешся: падэшва не скураная і не гумовая, па колеру грэцкая каша, але цвёрдая. Купляеш, носіш і пераконваешся, што лыкавыя лапці мацнейшыя былі за гэты абутак.

Сёння пасудак таксама робяць з пластмасы. Дагэтуль падчас спрэчак у суседзяў чутна было як пасудак білі. Па гуку ўдавалася здагадацца, што б'юць. Звонка чаркі і шклянкі ляцелі, салідна тарахцелі талеркі, як снарады, лопалі міскі. А цяпер? Кінуты пласцікавы пасудак падскоквае, як мяч, ні шуму не пачуеш, ні напружанасці спрэчкі не адгадаеш.

Рэкорд цяпер паб'лі пластмасавыя труны. Зроблены гэтыя труны прыгожа, салідна і пакойнікі поўнасцю імі задаволены. Пластмасавая труна не прапускае вільгаці і не пагражае рэўматызмам, не рассыхаецца і скразнякоў у ёй не будзе. Краты, чарвякі і іншыя падземныя жыхары такую труну не праточаць і пакойніка не патрывожаць.

Мой сусед зглузду з'ехаў, падрыхтаваў труну драўляную, а цяпер бачыць, што пластмасавая таннейшая і лепшая. Дзед Максім мае пласттруну і адчувае сябе выдатна. Калі яго нехта знервуе, кладзецца дзед у труну, крышкай накрываецца, паляжыць, супакоіцца і зноў на гэты свет вылазіць. Вядома, чалавек спакойны два векі жыве. А замяняльная сыравіна, несумненна, прадоўжыць нашае жыццё яшчэ на адзін век.

Сёння ўсё магчыма!

*Здзіська Лявань*

### НА КІРМАШЫ.

Прывёў гандляр на кірмаш прадаваць каня. Адзін купец заглянуў каню ў зубы і кажа:

— Але ж ваш конь стары.

— Не, не стары, — запярэчыў гандляр, — толькі ён меў звычай сцены глыдаць, таму ў яго зубы павыпадалі

**Мікалай Міхалюк**
Гайнаўка.

## Адвучыў

Адзін цыган хацеў адвучыць каня ад ежы. Па нейкім часе конь здох. Цыган з жалем кажа:

— Каб не здох, то напэўна я яго адвучыў бы!

**С. Сэвэрын**
Мастаўляны

## Што згубіла

Прайграўшы ў карты апошні касцюм, сын прыйшоў дахаты. Бацька яго і пытае:

— Мусіць цябе сынку згубіла дванццаць адно?

— Не, гатку, мяне згубіла дванццаць два, — адказаў сын.

**Юрка Скепка**
Альхоўка

## Сёстры

Прыйшла сястра да сястры і кажа:

— Хадзі, сястрыца, паможаш пшаніцу жаць.

— Калі асот колецца, — адказала тая.

Намалола першая сястра мукі. Прыходзіць другая сястра і кажа:

— Дай, сястрыца, мукі місачку.

А тая адказвае:

— Калі я да мукі, дык асот да рукі.

**Уладзімір Мінчук**
Луплянка

## На адпачынку

Паехала панюся з горада на адпачынак на вёску, зняла кватэру і адпачывае. Неўзабаве гаспадыня наладзіла сцірку. Высціраўшы нагавіцы мужа, павесіла іх на сонцы пад самым акном. Панюся, убачыўшы гэта, крычыць з абурэннем:

— Забярыце гэта, не магу на гэта глядзець!

— Добра, — адказала гаспадыня і забрала нагавіцы.

Пасля некалькіх дзён прыехаў да панюсі нейкі знаёмы з горада і пытае ў гаспадыні, ці панюся ў хаце.

— У хаце, а дзе ж, — адказвае гаспадыня, можаце ўвайсці, толькі спярша нагавіцы здыміце, бо наша панюся не можа дзівіцца на нагавіцы.

**Надзея Сідарук**
Сасіны

## Разумная ўнучка

Каб угаварыць ўнучку ісці спаць, бабуля кажа ёй:

— Як я была такая як ты, то заўсёды клалася спаць з курамі.

— Цікава, як гэта бабуля спала на седале? — зацікавілася ўнучка.

**Васіль Іванюк**
Плюціцы.




САМААБСЛУГОЎВАННЕ

**В. МАЕЎСКІ**

## КВАКТУХА

Квактуха ў чаканні куранят
Па сутках не піла, не ела:
І дзень, і ноч старанна яйкі грэла
Тры тыдні акурат.
І вось вясновым днём
На свет з'явілася малое куранё.
Ад радасці хахлатка ледзь не плача,
Не ведае падзецца дзе:
То у гняздзе,
То ля гнязда ўвесь дзень,
Бы апантаная якая, скача,
На двор малога ласкава заве:
«Пабегаў бы ды пагуляў ля горкі!»
Зародкі іншыя ёй больш не ў галаве,
І ўсе да вечара былі ў гняздзе заморкі.

Такі ўжо закон
(Аб ім мы чулі не аднойчы):
Каб добры быў ад працы плён,
Умей, пачаўшы справу, добра скончыць.



— Чаго гэта Іван Іванавіч на вытворчую гімнастыке выходзіць?

— За яго намеснік стараецца.

**Мал. Р. Грамыка**
(«Вожык»)

### КАЛІ ЖОНКА ВЯРТАЕЦЦА РАПТАМ З АДПАЧЫНКУ



Ало, хуткая дапамога? Неадкладна прыязджайце, сталася няшчасце!...

**Мал. Адам Бенькоўскі**
(«Карузэля»)










**мал. Яцэк Фэдаровіч**
(«Шпількі»)